© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018


# наша свабода

№70(157) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

9 ЛІПЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



**ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!**

Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.

Наш падпісны індэкс –

**63478**


# Белорусский след?

## *После сенсационных арестов бывших глав перуанских спецслужб и Югославии могут раскрыться денежные тайны*

*Так уж совпало, что бывший шеф перуанских спецслужб Владимиро Ленин Монтесинос был арестован в Венесуэле и выдан перуанским властям почти одновременно с выдачей Слободана Милошевича Гаагскому трибуналу. На этом совпадения не заканчиваются.*





Как известно, оба эти деятеля росли в марксистских семьях. И оба имели прямое отношение к весьма сомнительным сделкам. К примеру, с поставками советских вооружений. Года три назад заметным экспортером на мировом рынке вооружений являлась Беларусь. И в прессе не раз упоминалась скандальная продажа перуанским ВВС белорусской партии военных самолетов, которые, мягко говоря, оказались не совсем кондиционными. Следует отметить, что среди аккредитованных в Минске дипломатов трудится и военный атташе Перу, посольство которого находится в Москве. В общем, уровень военно-технического сотрудничества с далекой латиноамериканской страной у Беларуси весьма высок. И надо полагать был специфичен. По слухам, некоторые белорусские чиновники, имевшие дела еще с предшественником нынешнего военного атташе минского отделения перуанского посольства, остались благодарны за результаты весьма разнообразного сотрудничества. Представляется вероятным, что после падения и бегства президента Перу Фухимори на свою историческую родину в Японию, выданный венесуэльскими властями «самый страшный человек в Перу» Владимиро Ленин Монтесинос начнет давать показания о том, через кого и каким образом проходила оплата за приобретенные вооружения. То, что сделки носили сомнительный характер, могут свидетельствовать и обвинения в адрес Ленина в коррупции. Его вынужденное перемещение из венесуэльской в перуанскую столицу стали называть «ленинским путем».

По мере приближения президентских выборов в Беларуси до недавних пор считалась наиболее опасной для Лукашенко тема исчезнувших людей. Но с подачи депутата нижней палаты парламента, бывшего заместителя главы президентской администрации Ивана Пашкевича стала звучать еще одна тема. Публично он поднял вопрос: куда ушли вырученные от продажи оружия деньги? По некоторым данным, речь идет о сумме примерно в миллиард долларов. И не совсем понятно для здравомыслящих были попытки Лукашенко ответить. В частности, на так называемом Всебелорусском народном собрании он заверил присутствовавших статистов, что оппозиция зря ищет эти деньги, банковские счета... Все равно не найдут. Но, похоже, настоящую тревогу, переходящую в панику, вызвали последние интервью бывшего президентского завхоза Ивана Титенкова, скрывающегося в Москве. Как и его тезка, он также стал говорить о вырученных деньгах, проплывших мимо государственной казны в неизвестном направлении. Говорят, что именно эти обстоятельства вынудили власти предотвратить выход в печать субботнего номера газеты «День» с интервью И.Титенкова. Для власть имущих шаг отчаянный в период предвыборной кампании. Оппоненты Лукашенко обещают продлить эту тему. Так, наиболее памятливые хотят напомнить нынешнему лидеру российских правых Борису Немцову некоторые его слова, произнесенные им еще в бытность первым вице-премьером. Тогда якобы Борис Ефимович заверял своих белорусских единомышленников в том, что Кремлю известны счета, которые Лукашенко открыл в Перу на доверенных лиц. И, мол, это делает Лукашенко управляемым. Так ли это, показали последующие годы. Где сейчас Немцов и где Лукашенко?

В связи с сенсационным арестом в Венесуэле и доставкой в Перу бывшего главы перуанских спецслужб некоторые наблюдатели склонны обращать внимание на следующие обстоятельства. Не секрет, что перуанский Ленин скрывался в Венесуэле с октября прошлого года. И его нахождение на ее территории тамошние власти долго отрицали. Но после того, как недавно венесуэльский президент посетил Владимира Путина в Москве, он принял решение выдать тезку российского президента. Многие комментаторы назвали это мужественным шагом.

*Окончание на стр.3*

# Праўда раскрыецца пасьля выбараў?

Напярэдадні гадавіны зьнікненьня апэратара Грамадзкага расейскага тэлебачаньня Зьмітра Завадзкага жонкі беларускіх палітыкаў правялі ў Маскве прэсавую канфэрэнцыю, на якой зьвінавацілі беларускія ўлады й асабіста Аляксандра Лукашэнку за прыналежнасьць да зьнікненьня людзей.

З прысутнасьцю буйнейшых расейскіх тэлеканалаў і мэдыяў Сьвятлана Завадзкая, Ірына Красоўская, Тацяна Клімава й Людзьміла Карпенка паведамілі: у беларускіх уладаў існуе плян зьнішчэньня палітычных апанэнтаў, і адным зь першых стаў Генадзь Карпенка.

«Гэта было палітычнаезабойства», — заявіла Людзьміла Карпенка, якая нагадала, што сям'я дагэтуль так і не атрымала заключэньня патоляга-анатамічнай экспэртызы пасьля сьмерці Генадзя Карпенкі.

«Пасьля азнаямленьня з матэрыямі справы ў мяне ўзьнікае яшчэ больш пытаньняў», — адзначыла Сьвятлана Завадзкая, заклікаўшы расейскіх калегаў Зьмітра не пакідаць расьсьледаваньня. Зь меркаваньня спадарыні Завадзкай, праўду пра зьнікненьне мы даведаемся толькі тады, калі ў Беларусі «зьявіцца дэмакратычны прэзыдэнт, але не Аляксандар Лукашэнка». «Пры гэтай уладзе мы адказу ня знойдзем», — паўтарала Ірына Красоўская.

Прэсавая канфэрэнцыя адбывалася ў цэнтры сталіцы, на Зубаўскім бульвары, і была арганізаваная Расейскім фондам абароны галоснасьці ды Беларускай асацыяцыяй журналістаў. Пасьля Масквы спадарыні Завадзкая, Красоўская, Клімава й Карпенка, паводле іхных словаў, накіруюцца ў Парыж, дзе цяпер адбываецца сэсія Парлямэнцкай Асамблеі Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе. Адтуль жонкі перасьледаваных беларускіх грамадзян паляцяць у Вашынгтон.

Адказваючы на пытаньне нашага Радыё, ці сустракаліся яны ў Маскве зь беларускімі сілавікамі альбо былымі супрацоўнікамі прэзыдэнцкай Адміністрацыі, якія цяпер хаваюцца ў расейскай сталіцы, жанчыны заявілі, што гэтакай сустрэчы не было. Магчыма, у Вашынгтоне адбудзецца сустрэча з былымі пракурорамі спадарамі Петрушкевічам і Случакам, якія — нагадаю — абнародавалі ў Беларусі іфармацыю пра існаваньне гэтак званага эскадрону сьмерці.

**Юрась КАРМАНАЎ, Масква, Радыё «Рацыя»**

# Сямён Домаш:«Улады рыхтуюцца да фальсіфікацыяў»

Меркаванне патэнцыйнага кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Сямёна Домаша пра ролю незалежнага назірання за прэзідэнцкімі выбарамі: ці можа яно рэальна супроцьстаяць фальсіфікацыям?

Сямён Домаш:

«Можа, і я думаю, што мы ўсё зараз разумеем, што на пэўным этапе выбарчай кампаніі нам усім трэба будзе падключыцца да гэтай працы, каб максімальна пашырыць кола назіральнікаў. Неабходна далучыцца да тых структураў, што існуюць сёння, каб у працэсе дадаць людзей, якія могуць пайсці ў наглядальнікі. І я лічу, што калі мы дасягнем лічбы, што на кожным выбарчым участку будзе выстаўлена не менш трох незалежных наглядальнікаў, вельмі цяжка будзе сфальсіфікаваць выбары, калі хто-небудзь паспрабуе гэта зрабіць. Я стаўлю за мэту праводзіць такую працу з маімі партнёрамі, каб мы агульнымі намаганнямі самым актыўным чынам пашыралі сетку незалежнага назірання.

Трэба выкарыстоўваць працу ўсіх, хто пагодзіцца на супрацоўніцтва ў галіне назірання, і ў першую чаргу, натуральна, трэба будзе абапірацца на сябраў нашых ініцыятыўных групаў. Але я хачу падкрэсліць, што назіранне павінна быць незалежным – не на карысць кагосьці там. Гэта павінны быць незалежныя назіральнікі, якія сочаць за тым, каб падчас галасавання было цалкам выкананае заканадаўства».

Сямён Домаш пракаментаваў таксама вынікі фармавання выбарчых камісіяў: «Тое, што ў склад выбарчых камісіяў амаль не ўвайшлі прадстаўнікі дэмакратычных сілаў, сведчыць адназначна аб тым, што ўлады рыхтуюцца да фальсіфікацыяў вынікаў выбараў. Яны проста баяцца, што будуць людзі, якія могуць аказацца ў гэтых камісіях і не выканаюць загад вертыкалі. Рыхтуецца ўсё для таго, каб можна было, калі спатрэбіцца, сфальсіфікаваць вынікі галасавання. Я толькі такім чынам гэта разглядаю».

**Прэс-служба грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне»**

## Магілёўшчына адстае з жытлом

За пяць месяцаў 2001 года на Магілёўшчыне здадзена ў эксплуатацыю жытла агульнай плошчай 83,1 тысячы квадратных метраў, што на 38,8% меней, чымсьці за аналагічны перыяд летась. Досыць верагодна, што ў канцы года шэраг будаўнічых арганізацыяў рэгіёна адправяцца ў вымушаныя адпачынкі.

## Новыя станцыі метро

Сёлета ў Мінску распачнецца будаўніцтва дзвюх новых станцыяў метро. У Мінгарвыканкаме ўхвалены праект па працягу на 2,7 кіламетра лініі метро ад станцыі «Усход». Ужо вядома, што першая з гэтых станцыяў будзе называцца «Барысаўскі тракт».

## Прапаршчыкаў стане больш

7 ліпеня ў ваенным гарадку Печы, што ў Барысаўскім раёне, адкрылася школа прапаршчыкаў. Рашэнне аб гэтым прынятае з-за недахопу ў беларускай арміі малодшых афіцэраў. Вучыцца сюды змогуць прыйсці асобы з вышэйшай адукацыяй, якія праслужылі больш за паўгода, і з сярэдняй адукацыяй з тэрмінам службы, большым за год.

## Батанічны сад папрыгажэе

У Батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук будзе ажыццёўлены адмысловы праект па арганізацыі тут цэнтра фітадызайну і палігона па выпрабаваннях альтэрнатыўных крыніцаў энергіі. На гэта атрыманы міжнародны грант на 15 тысяч долараў.

## Палёгкі транспартнікам

Перавозкі пасажыраў і грузаў, якія ажыццяўляюцца перавозчыкамі Беларусі і Украіны, а таксама транспартныя сродкі, што абслугоўваюць гэтыя перавозкі, вызваленыя на парытэтным грунце ад падаткаў і дзяржаўных збораў, што звязаныя з валоданнем або выкарыстаннем транспартных сродкаў, а таксама выкарыстаннем або ўтрыманнем дарог.

## Мінск пад кабелем

«Космос ТВ» плануе ахапіць сеткай кабельнага тэлебачання ўвесь Мінск да канца 2004 года. У сёлетнім ліпені абанентамі прадпрыемства стануць жыхары «Сухарава-1», а ў кастрычніку — мікрараёна Чырвоны Бор.

## Траўматычны луна-парк

Трохгадовае дзіця траўмавалася на атракцыёне ў магілёўскім луна-парку. Яно выпала з дзіцячага аўтамабіля і трапіла пад наступны. У выніку ўрачы ўстанавілі дыягназ «удар груднай клеткі і чэрапна-мазгавая траўма». Але жыццю дзіцяці нічога не пагражае, стан здароўя малога ацэньваецца як здавальняючы.

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1415**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Самі па сабе

## Беларуская дыяспара за мяжой і метраполія мусяць выйсці з узаемаізаляцыі

*На мінулым тыдні 5 і 6 ліпеня ў Мінску ў памяшканні Дома літаратара прайшоў III з'езд беларусаў свету. Гэтымі перадкупальскімі днямі на нацыянальным форуме, арганізаваным Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», абмяркоўваліся праблемы беларускіх дыяспараў за мяжой, іхнія стасункі з метраполіяй, наогул стан беларускай нацыі і сітуацыя ў Беларусі.*

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

**У Рэспубліцы Беларусь жыве прыкладна 8 мільёнаў беларусаў (81% насельніцтва). Каля 3 мільёнаў жывуць за мяжой. Самыя вялікія беларускія дыяспары ў Расіі (1 мільён 200 тысяч чалавек), ва Украіне (440 тысяч) і ў Польшчы (350 тысяч). Далей ідуць Казахстан (180 тысяч), Латвія (120 тысяч), Літва (65 тысяч), Эстонія (30 тысяч), Узбекістан (20 тысяч), Малдова (20 тысяч).**

Не абышлося калі не без скандалу, дык без напружанасці. Яе ўвачавідкі актыўна насаджала дзяржава. Нагадаем, што напачатку Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў прасіў ЗБС «Бацькаўшчына» перанесці дату правядзення з'езда на восень, то бок за прэзідэнцкія выбары. Аднак было вырашана прытрымлівацца статуту арганізацыі і традыцыяў праводзіць з'езд на Купалле. Пасля гэтага намеснік старшыні Камітэта Іван Яновіч змясціў у газеце «Голас Радзімы» артыкул, дзе абрынуўся на «Бацькаўшчыну» з крытыкай за нібыта жорсткую апазіцыйнасць і рэкамендаваў беларускім суполкам за мяжой не ездзіць на з'езд, бо ён, маўляў, мае ператварыцца ў апазіцыйнае палітычнае шоу. Гэтаксама паводзіліся і беларускія амбасады.

У выніку такія захады замінуць правядзенню нацыянальнага форуму пэўны негатыўны эфект далі. 5-6 ліпеня ў Мінску перабывала ўсяго толькі траціна ад чаканых дэлегатаў.

Апрача прадстаўнікоў дыяспараў, з'езд цягам двух дзён наведала багата вядомых дзеячаў культуры, культуры і мастацтва, а таксама палітыкаў з уласна Беларусі. У прыватнасці, сярод з'ездаўцаў давялося бачыць Сямёна Домаша, Уладзіміра Ганчарыка, Станіслава Шушкевіча, Ніла Гілевіча ды іншых. Тэлеграмныя вітанні прыйшлі ад Васіля Быкава, Барыса Кіта і Івонкі Сурвіллы. Гэткім чынам у Доме літаратара сімвалічна стасаваліся і знітоўваліся тутэйшыя беларусы і працяг беларускай нацыі за мяжой.

Чыноўнікаў дзяржаўных органаў, нягледзячы на запрашэнні, была жменька. Іх хопіць пералічыць пальцаў аднае рукі. Праўда, у другі дзень з'езда беларускія ўлады вырашылі паклікаць дэлегатаў з'езда да сябе. Падчас II з'езда беларусаў свету гэта рабіў Лукашэнка, гэтым разам сустрэча адбылася ў Доме ўрада з удзелам міністраў адукацыі і фінансаў, намесніка міністра культуры, старшыні Дзяржкамдруку і намесніка старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацыянальных меншасцяў. На гэтую сустрэчу прыйшло блізу паўсотні дэлегатаў, пераважна з праўладных суполак беларусаў за мяжой. Бальшыня ж дэлегатаў палічыла, што ім там рабіць няма чаго. Вось што сказала на гэты конт кіраўнічка аб'яднання беларусаў у Вялікай Брытаніі Лёля Міхалюк: «Я не хадзіла, я хадзіла да Янкі Купалы». Справа ў тым, што ў адзін час з той сустрэчай астатнія дэлегаты ўскладалі кветкі да помніка паэту.

А вось што распавёў пабываўшы ў Доме ўрада Аляксандр Палескі з Гайнаўкі, што на Беласточчыне: «Усё адбылося амаль так, як я і меркаваў. Перад тым, як мы ім дамо кантраверсійныя, нявыгадныя пытанні, яны зрабілі, так бы мовіць, папераджальныя адказы, што нам не варта было задаваць сваіх пытанняў. Так, раптам я даведаўся, што ўрад зрабіў максімум добрага што да беларускай мовы, ажно наіўна было чагосьці вымагаць...Увогуле ж з'езд адбыўся практычна ў ізаляцыі ад дзяржавы. Цяжка ўявіць такое, напрыклад, у Ізраілі: два месяцы па тамтэйшых каналах гаварылі пра такую важнейшую падзею, як нацыянальны форум».

Без палітыкі ў Доме ўрада не абышлося. Прыйшоўшым туды беларусам замежжа ўручалі асобнікі нядаўна выдадзенага зборніка прамоваў на так званым Другім Усебеларускім сходзе. Назва выдання з 250 старонак аднайменная з цвіковым дакладам Лукашэнкі на тым мерапрыемстве «За сильную и процветающую Беларусь». У адказ нават лаяльныя да рэжыму дэлегаты з'езда беларусаў свету засыпалі ўрадоўцаў скаргамі. Украінскія беларусы хочуць атрымліваць беларускія дзяржаўныя і незалежныя выданні, расійскія вымагаюць хоць бы аднаго беларускамоўнага класа ў Маскве, але беларускія ўлады аніякіх намаганняў дзеля гэтага не прыкладаюць. Пры гэтым быў згаданы прыклад украінскага віцэ-прэм'ера, які паехаў вырашаць аналагічнае пытанне, тыдзень не пакідаў расійскую сталіцу, але дамогся з'яўлення там украінскамоўнага класа.

Самая напружаная сітуацыя ўнутры беларускай дыяспары ў Расіі. Як маюцца беларусы, што жывуць у гэтай краіне, распавядае Алег Рудакоў, кіраўнік іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. Яго часта называюць «галоўным беларусам Прыангар'я».

— У Расіі самая вялікая беларуская дыяспара, але лучнасці ўнутры яе няма. У 1999 годзе прайшлі два з'езды: адзін з'езд – пад бел-чырвона-белым сцягам, другі – пад зялёна-чырвоным. На першым казалі па-беларуску, на другім – па-руску. На зялёнасцяжны з'езд сабралася людзей болей, аднак яны нічога не вырашалі, усё — да статутаў — вырашалася кулуарна, у Беларусі, у амбасадзе і яшчэ невядома дзе. Калі мы кажам пра славянскае братэрства, то гэта палітычная акцыя, і далей гэтых словаў нічога не пойдзе. Калі мы хочам захаваць нацыю і годна яе прадстаўляць, то мы павінны быць нацыяналістамі. У здаровым сэнсе: ведаць і паважаць сваю гісторыю, карані і традыцыі, распаўсюджваць іх там, дзе жывеш.

***— Што ўяўляе сабой вашае аб'яднанне?***

— Наша суполка, якая існуе ўжо 5 гадоў, не займаецца палітыкай, мы не выказваемся ў падтрымку Лукашэнкі ці супраць яго. Але ў нас у сядзібе і ў нашай эмблеме бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня». Чаму? Таму што гэта гістарычныя сімвалы. Мы праводзім нацыянальныя абрады, маем бюлетэнь, фальклорныя гурты. Ствараем суполкі па ўсёй Іркуцкай вобласці. Тут жывуць 50 тысячаў беларусаў, шмат беларускіх вёсак, у кожным раёне – па некалькі. Карацей, мы проста робім справу. У іншых рэгіёнах збольшага ўсё вядзецца да палітызаванасці нейкай, і ў большай ступені такім чынам: ты за Лукашэнку – будзем падтрымліваць, бэнэзфавец – ах, ты сякі-такі.

***— Наколькі лёгка на Іркутчыне вызнаваць здаровы беларускі нацыяналізм?***

— Самае цяжкае вось што. У маёй грамадзе ёсць не толькі беларусы, якія нядаўна туды перасяліліся, але і іх унукі, іх праўнукі. Яны імкнуцца спазнаць, даведацца пра свае карані, згодныя вучыць гэтую мову. Але прыязджаюць раптам у Беларусь, не чуюць тут беларускай гаворкі і задаюцца пытаннем: гэта нам трэба ці не? Самае цяжкае ў тым, што ў самой дзяржаве няма спрыяльнай нацыянальнай палітыкі, сама дзяржава не зацікаўленая, каб яе дыяспара была годнай і прадстаўляла яе інтарэсы. Усе іншыя краіны моцна ставяць на дыяспару. Дыяспара – гэта не толькі імідж краіны, гэта прасоўванне інтарэсаў, нацыянальная годнасць. Мясцовыя чыноўнікі высокага ўзроўню запрашаюць на розныя імпрэзы, дзе задаюць пытанне, ці падтрымлівае нас Беларусь. Я кажу, што не. А ім няўцям, як гэта так, што мы існуем незалежна ад сваёй дзяржавы.

***— Апошнім часам багата кажацца пра крызіс унутры Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», і што без належнай падтрымкі дзяржавы яно з праблемамі дыяспары не зладзіць.***

— Не варта і не трэба спадзявацца на дзяржаву. Дужа дзіўна выходзіць. Усе мы крытыкуем дзяржаву, кажам, што яна не займаецца дыяспарай, і ў той жа час прымаем праграму, дзе запісана, што вось гэтае мерапрыемства павінна выканаць міністэрства замежных справаў, вось гэтае – міністэрства культуры. А калі яны адмовяць? Будзем сядзець? Трэба самім канкрэтныя мерапрыемствы планаваць, шукаць сродкаў і праводзіць і не чакаць ласкі ад дзяржаўных органаў.

***— Які тады, на вашую думку, мусіць быць агульны прынцып узаемадачыненняў паміж дзяржавай і Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына»?***

— Ідэальны варыянт, калі тут зменіцца ўрад і пачне распрацоўвацца спрыяльная нацыянальная палітыка, каб падтрымліваць цесныя ўзаемавыгадныя стасункі з беларускай дыяспарай. А беларуская дыяспара моцная толькі тая, якая стаіць на нацыянальных пазіцыях. Сёння ўсяго гэтага няма. Значыць, зараз «Бацькаўшчына» павінна займацца тымі праектамі, якія яна можа ажыццявіць без дапамогі беларускага ўрада. На гэта трэба толькі воля і жаданне. Каб, не зважаючы ні на што, рабіць сваю справу.

Што да праблемаў дыяспары, то асноўныя тэзы-закіды да беларускіх уладаў з боку нашых суайчыннікаў у замежжы наступныя. Першае. Маўляў, зрабіце гэтак, каб не было сорамна за Беларусь, а астатняе мы зробім самі. Другое: як вы да нас ставіцеся, так да нас ставяцца і мясцовыя ўлады. Некалькі прыкладаў прывёў у кулуарах з'езда Хведар Нюнька з Вільні. Гэта нежаданне літоўскіх уладаў аднаўляць музей Івана Луцкевіча, які ёсць значным дасягненнем беларускай культуры. Са словаў Х.Нюнькі, нават «пры ўсіх акупацыях – польскай, нямецкай – існаваў беларускі музей». Тое самае з ініцыятывай ушанавання памяці ксяндза Адама Станкевіча: «я дайшоў нават да арцыбіскупа — ён дазволу не даў».

На з'ездзе ў Згуртаванні беларусаў свету «Бацькаўшчына» змянілася старшыня Рады арганізацыі: замест эміграваўшай летась у Чэхію Ганны Сурмач гэтую пасаду заняла маладая Алена Макоўская, якая была старшынёй рабочай групы па правядзенні III з'езда беларусаў свету. Многія дэлегаты з'езда спадзяюцца ў звязку з гэтым на пэўнае рэфармаванне «Бацькаўшчыны». Напрыклад, як мага больш заангажаваць у справы беларускіх дыяспараў за мяжой і наогул у беларускасць моладзь. На з'ездах беларусаў свету амаль усе іхнія дэлегаты традыцыйна сталага веку. Што яшчэ да выбараў кіраўніцтва арганізацыі, то прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» абраны гісторык Анатоль Грыцкевіч.

Між іншым, у ЗБС «Бацькаўшчына» з'явіўся свой гімн. Ім прапанавана лічыць мелодыю, што прагучала перад адкрыццём з'езда. Гэта кампіляцыя з дзвюх кампазіцыяў «Полацкага сшытка», збору старажытнай беларускай музыкі, вядомага з 1640 года.

Голас беларусаў з усяго свету прагучаў яшчэ раз. Як аддасца? Дэлегаты з'езда аптымізуюцца, што гэта можа адбыцца ўжо ўвосень? Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла ў сваім пасланні прамінуламу з'езду напісала: «Змагарам за беларускасць хачу выказаць пажаданне, каб наступны з'езд беларусаў свету адбыўся у вольнай і дэмакратычнай Беларусі». Гэтыя б словы ды Богу ў вушы.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

ТРЭЦІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Фота Ул.ШЛАПАКА

# Чудесные явления книжной торговли

## Как доказать, что вы купили в магазине книгу?

*Недавно НАША СВАБОДА опубликовала материал «Темница разума с портретом патриарха», который познакомил читателя с некоторыми удивительными тезисами альманаха «Православие или смерть!», посвященного «Черной сотне». Альманах продавался в магазине «Православная книга» по ул. Берестянской в Минске. Возможно, где-нибудь еще, но куплен был там.*

На публикацию последовало несколько откликов,и среди них один официальный – из Госкомпечати Беларуси:

*«У газеце «Наша свабода» (№ 65 ад 22.06.2001 г.) змешчаны артыкул «Темница разума с портретом патриарха», дзе Дзяржкамдрук абвінавачваецца ў «патуранні» распаўсюджванню «Праваслаўнай кнігай» альманаха «Православие или смерть!» На жаль, мы не маем гэтага выдання, каб ажыццявіць прававы аналіз змешчаных у ім матэрыялаў і прыняць адпаведныя меры ў адносінах «Праваслаўнай кнігі» згодна дзеючага заканадаўства.*

*Як высветлілася, названая ў артыкуле кнігарня не гандлявала і не гандлюе (па пісьмоваму тлумачэнню дырэктара) такім выданнем.*

*Не аказалася альманаха і на паліцах кнігарні пры праверцы. Просім рэдакцыю «Нашай свабоды» прадаставіць неабходныя доказы для прыняцця мер па сутнасці справы».*

Надеемся, что «необходимым доказательством» того, что история с покупкой альманаха не выдумка редакции, может быть копия чека на приобретенный номер «Черная сотня» альманаха «Православие или смерть!», которую мы здесь публикуем. Покупка, как свидетельствует запись на чеке, была совершена 4 апреля сего года. Возможно, директор успел позабыть книжный ассортимент того месяца. Тем более, что «Православие или смерть!» не имеет выходных данных, и проследить, где альманах издан, кем, когда и сколько его издано — пять единиц или пять тысяч – простым смертным невозможно. Видимо, он и проходит к покупателю каким-то своим неканоническим путем. Что касается номера для экспертизы, то, наверное, его можно попросить в офисе белорусского экзархата РПЦ. Альманах, о котором идет речь, не единичный выпуск. «Православием или смертью» называется периодическое издание (уже вышло 14 номеров), о чем повествует рекламная сторона обложки, которую мы воспроизводим для любопытного читателя.

Вопрос же о том, как купленный в магазине альманах может быть не явленным там документально, – относит нас в сферу религиозных чудес, в которые можно свято верить.

**Отдел информации**

магазин ПРАВОСЛАВНАЯ КНИГА
г.Минск, ул. Берестянская, 17 Тел. 210-02-41

| Наименование | Количество | Цена | Сумма |
|---|---|---|---|
| | | | |

ЧИТАЙТЕ АЛЬМАНАХ

ПРАВОСЛАВИЕ ИЛИ СМЕРТЬ!

ПРАВОСЛАВИЕ ИЛИ СМЕРТЬ!

14

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



ГЛАБАЛІЗАЦЫЯ

# Идолы конкуренции равнодушны к человеку

На прошлой неделе в Будапеште проходила конференция по проблемам глобализации в бывших государствах «лагеря социализма». Участники форума, среди которых эксперты в области экономики, политики и охраны окружающей среды, религиозные деятели из многих стран мира, приняли «Обращение» ко всем христианским церквям Европы, правительствам европейских стран и широкой общественности.

В обращении, со ссылкой на статистические данные ООН, отмечается, что если в 1989 году только 14 миллионов человек в странах Центральной и Восточной Европы жили менее чем на 4 доллара в день, то сейчас число таких людей составляет более 140 миллионов. Десятикратное увеличение количества малообеспеченных людей за 10 лет – это пугающая тенденция расширения пропасти между богатством и бедностью, которая может отозваться социальными потрясениями в недалеком будущем.

Обсуждая проблему «господства идолов конкуренции, потребительства и комфорта», участники этого форума по проблемам глобализации отмечали, что тысячелетняя христианская традиция учит «не уходить в оборону перед лицом доминирующих сил мира», «не прятаться от ответственности в область личных проявлений веры». «Наша миссия, — говорится в обращении, — изменять окружающую жизнь и заботиться обо всех людях, особенно о тех, кто страдает, подвергается давлению или вытесняется на обочину жизни». В противовес глобализации конференция призвала церкви побуждать государства к процессу «локализации», уделяя «больше внимания чаяниям, традициям и образу жизни людей в конкретных регионах и местностях». Церквам также предложено поддерживать мелкий бизнес, местные механизмы кредитования и накопления, системы независимого информационного обмена и усилия, направленные на защиту национальных культур.

К церквам в государствах Запада обращен призыв убедить политиков остановить эксплуатацию большинства населения мира и разрушение Земли «золотым миллиардом» (жителями развитых стран). По мнению участников будапештской конференции, церковь должна помочь населению развитых стран Запада вновь открыть для себя традиционные христианские ценности самоограничения, аскетизма и общинности.

**Генадий БЛАКИТ**

# Из советских самые честные — эстонцы

Между коррупцией и бедностью существует самая непосредственная связь. Об этой зависимости напомнил председатель неправительственной организации «Транспэренси интернэшнл» Питер Эйген, который представил очередной ежегодный доклад о коррупции в мировом масштабе. В докладе учтены сведения о состоянии дел в 91 стране мира с использованием 10-балльной системы. Для вычисления балла каждой отдельной страны использовано 14 исследований, проведенных семью различными и независимыми организациями.

«Новый индекс отражает замкнутый круг бедности и коррупции, — подчеркнул руководитель «Транспэренси интернэшнл». — Коррупция процветает там, где родители должны подкупать учителей, которым недоплачивают, чтобы те учили их детей. Она процветает там, где без денег осталось здравоохранение. Главными жертвами коррупции всегда являются самые бедные. Колоссальные суммы изымаются из общественных фондов, разбазариваются и разворовываются коррумпированными чиновниками».

В классификации коррупции за 2001 год лишь несколько наиболее развитых стран мира получили более 9 баллов из 10. Самая «честная» страна мира – Финляндия, она набрала 9,9 балла. За ней следуют Дания (9,5 балла), Новая Зеландия (9,4), Исландия и Сингапур (по 9,2), Швеция (9 баллов). Среди ведущих индустриальных стран мира наименее коррумпирована Канада. Она занимает 7-е место (8,9 балла). Великобритания стоит на 13-м месте (8,3 балла), США — на 16-м месте вместе с Израилем (по 7,6 балла). Германия занимает 20-ю строчку (7,4 балла), Япония — 21-ю (7,1 балла), Франция — 23-ю (6,7 балла), Италия — 29-ю (5,5 балла). Из республик бывшего СССР приятное исключение по уровню «честности» составляет Эстония, она выбилась на почетное 28-е место (5,6 балла). Как видим, это лучше, чем в Италии.

Меньше половины из возможных баллов набрали 55 стран. Замыкает список, поражая уровнем коррумпированности, Бангладеш (0,4 балла), а соседствуют с этой страной Нигерия (1 балл), Уганда и Индонезия (по 1,9 балла). Остальные до заветных 5 баллов не дошли.

Россия находится в самом конце списка, разделяя 79-ю строчку с Пакистаном и Эквадором (по 2,3 балла). Она пропустила вперед Казахстан и Узбекистан (71-е место, по 2,7 балла), но зато может похвалиться, что обогнала Украину, которая занимает 83-е место (2,1 балла), и Азербайджан (84-е место вместе с Кенией, по 2 балла).

**Инга КОЙДАНОВСКАЯ**




# Да экватара — адзіны крок

*Учора ўвечары футбалісты мінскага «Дынама» правялі ў Ізраілі паўторны матч другога раўнда розыгрышу Кубка УЕФА — Інтэртота ў Хайфе супраць мясцовага «Хапаэля».*



Фота М.ШОСТАКА

Лідэр атакаў «Дынама» Пётр Качура

Мы верым, што сталічная каманда па суме дзвюх сустрэчаў выйшла ў чарговы круг, дзе яе сапернікам будзе нямецкі клуб германскай бундэслігі «Вольфсбург». 2:0 — такую перавагу мелі мінчане пасля хатняй сустрэчы і, хутчэй за ўсё, павінны былі рухацца ў турніры далей, нават калі б і прайгралі на выездзе 0:1, 1:3 ці 2:4. Падначаленыя Аляксандра Піскарова зараз «на хаду», у апошнім паядынку нацыянальнага чэмпіянату яны лёгка «разбілі» віцебскі «Лакаматыў-96» — 4:0, які, дарэчы, ўжо некалькі гадоў «бамжуе» як прыблуда, не маючы свайго асабістага стадыёна ў абласным цэнтры. Карацей кажучы, «Дынама» не павінна саступаць аб'ектыўна больш слабым на сённяшні дзень ізраільцянам. Насцярожвае толькі разважанне таго ж галоўнага трэнера, што вельмі ён занепакоены назначэннем брыгады рэферы з Грэцыі, маўляў, могуць проста засудзіць. Паглядзім. Усе мячы правёў лідэр атак Пётр Качура, атрымаўшы за гэта самую высокую адзнаку сваёй гульні за ўвесь час выступлення за «блакітна-галубых». Вы памятаеце, што пасля «хет-трыка» ў вароты свайго першага саперніка па Кубку , люксембургскага «Хобшайда», «дзесятка» дынамаўцаў стаў трынаццатым па ліку беларускім футбалістам, які трапіў ў «Клуб бамбардзіраў-100», і вось апошні магутны залп па варотах віцяўляніна Поге дазволіў Пятру ўзняцца на радок вышэй, адцясніўшы свайго знакамітага аднаклубніка Міхаіла Мустыгіна. У Качуры 106 мячоў, а ў былога партнёра па атацы Эдуарда Малафеева — 103. На прыцэле ў Пятра пакуль два паказчыкі, яны бліжэй да яго за іншых, Юрыя Мазурчыка і Андрэя Скарабагацькі — 108 і 109 трапных удараў. Сярод кандыдатаў на пападанне ў спіс членаў прэстыжнага клуба яшчэ ў сёлетнім сезоне — адразу два мазыраніны: Валерый Стрыпейкіс і Раман Васілюк, якія забілі адпаведна 99 і 98 мячоў. Астатнія прэтэндэнты пакуль адстаюць ад лічбы 100 больш чым на дзесяць галоў.

Хто хутчэй трапіць з гульцоў «Славіі» ў клуб — толькі адна з інтрыг бягучага першынства і можа не самая галоўная. Ёсць яшчэ шэраг футбольных справаў, якія цікавяць аматараў. Першая з іх, безумоўна, звязаная з пытаннем аб чэмпіёне. Тэмп, які задаў астатнім БАТЭ, вельмі цяжка вытрымаць, і невядома, хто з іншых калектываў можа ўзняць пальчатку, далёка кінутую хлопцамі Юрыя Пунтуса. Таму цэнтральным матчам дванаццатага тура, які адбыўся ў выхадныя дні, стала «разборка» ў Салігорску, дзе «Шахцёр» прымаў барысаўчан. Апроч усяго, і гаспадары, і госці мелі на ўвазе не толькі прыемны канчатковы вынік, але і магчымасць паралельна адсвяткаваць свой асабісты юбілей. Салігорцы пры перамозе маглі перакрыць рубеж у 200 хатніх ачкоў, а вось лідэр, адразу пасля першага ўзяцця варотаў саперніка, забіў бы свой соты гол у выязных сустрэчах за ўвесь перыяд выступлення ў вышэйшай лізе! Дазвольце нагадаць, што гэта ў яго толькі чацвёрты сезон! Гульня завяршылася паразай не ведаючых дагэтуль паражэнняў барысаўчанаў — 0:1, і вы зможаце працягнуць разважанні наконт тых самых маленькіх святаў. Сваю першую перамогу святкаваў наваполацкі «Нафтан-Дэвон», і, такім чынам, у турнірнай табліцы не засталося ніводнага нуля ў раздзелах «перамогі — нічые — паражэнні». Поспехі «Шахцёра» і гродзенскага «Нёмана-Белкарда»(апошні перадолеў у гасцях «Маладзечна-2000» з лікам 3:0) дазволілі ім уладкавацца на трэцяй-чацвёртай пазіцыях.

БАТЭ па-ранейшаму, нягледзячы на асечку, ідзе наперадзе, пасля 12 тураў у яго 29 ачкоў. Галоўны праследавацель, бабруйская «Белшына», у сувязі з удзелам мінскага клуба ў Кубку Інтэртота, аказалася нечакана свабоднай і хуценька адправілася на невялічкі збор у польскі Беласток. Праз тыдзень усе, спадзяемся, каманды згуляюць сустрэчы апошняга тура першага круга, і, як кажуць, чэмпіянат пяройдзе свой экватар, другая яго палова пачнецца толькі ў апошнія дні ліпеня. Але сумаваць нікому не прыйдзецца. Стартуе Ліга чэмпіёнаў, мінулагодні чэмпіён «Славія» на будучым тыдні згуляе ў гасцях аж на Фарэрскіх астравах супраць нейкага, зусім невядомага «Вагура», працягнуцца паядынкі ў Кубку Інтэртота, павінны быць згуляныя і прапушчаныя матчы першынства Беларусі, а іх трохі назбіралася.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 9 - 15 июля

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. Достаточно оптимистично оценивая обстановку, вы способны достичь поставленной цели целым семейством или партией, руководствуясь высокими идеями, подкрепленными к тому же финансами. Вот только присутствует еще среди вас «подстрекатель» с революционными замыслами. Не стоит особо прислушиваться или стремиться к посулам из России – пока не время делать выводы.



**ТЕЛЕЦ**. Ваше имя вызывает настолько неоднозначные реакции, что порой приходится отвечать не только за свои промахи, но и за ошибки коллег или даже целого коллектива. Не лучшее время обозначать себя в важных профессиональных процессах, все еще много срывов. Приходится много трудиться, причем часто – за идею. Не исключено в четверг и пятницу создание объединений, групп на базе полученных валютных средств.



**БЛИЗНЕЦЫ**. У вас появляется неожиданная поддержка, кто-то не из этих мест или со скамейки запасных оказывает услугу. Может быть, это будет целая партия или коллектив. Можно наслаждаться радостями жизни несмотря на то, что какие-то препятствия юридического характера мешают в полной мере расширять активность. Дальняя поездка или широкая реклама, предпринятая в четверг и пятницу, дают прочный эффект.



**РАК**. То, что вы в тени событий, сыграет на руку. Открытые противники и оппоненты способны стать друзьями и даже предпринять что-либо совместное. Незаметная коллективная деятельность приносит плоды. Только не рекомендуется вовлекаться в приключения, полагаться на авось – халтура не пройдет, в ближайшее время обман раскроется. Сдержите порыв летать самолетами и не полагайтесь на электронную технику.



**ЛЕВ**. Вы все больше получаете любви со стороны коллектива, несмотря на то, что какие-то обвинения бывших соратников или конкурентов не дают спокойно спать. Неплохо бы заняться программной экономической деятельностью и информацией. Поменьше вовлекайтесь в игры, не исключено, что они скоро «лопнут». Супруг вам пока не помощник. Чем больше поездок, встреч с солидными людьми, тем выше рейтинг.



**ДЕВА**. Вас можно поздравить – находится приличный выход из ситуации нападок и авантюрных требований. Во многом ситуацию способна спасти женщина и спонсорская помощь. Хорошо воспринимаются высказывания об общечеловеческой любви, всепрощении и покаянии. Надо сказать, что вас действительно может окружить заботой приехавший издалека человек. Или же не исключено, что вам придется куда-то с удовольствием уехать.



**ВЕСЫ**. Кто-то идеально себя ощущает в дальних краях или же увлекается творчеством, исполненный вдохновения. Вы расслабляетесь, обнаруживаете, что есть в этом мире не просто любовь, но и высокого полета чувство. Это не помешает проводить переговоры с серьезными людьми и подписывать необходимые документы в четверг и пятницу. Из детей некто поговаривает о свадьбе, но стоит отложить сей процесс хотя бы на месяц.



**СКОРПИОН**. Тревога за судьбы дома, родных и близких не покидает. Вероятна поездка в дальние края по делам для выполнения серьезной миссии. Кто-то вынужден заниматься нотариальными вопросами, завещанием, какими-то драматическими вопросами, договариваться с супругом или партнером о создании союза по интересам. Вы рискуете, заключая тайно договоренности, если не подстрахуете себя.



**СТРЕЛЕЦ**. У вас пока дурное окружение и ложные слухи. Однако в четверг и пятницу объявится партнер, который способен оказать ценную услугу, дать дельный совет. Неплохо бы рассчитаться с оформлением разных документов. Во второй половине недели вы способны достичь редкой гармонии в семейных и союзных отношениях, пользуйтесь заслуженной любовью и почетом окружающих. Романтический герой.



**КОЗЕРОГ**. На фоне ненадежного финансового положения вы вдруг получаете вознаграждение, можете заключить выгодный контракт. Любовь облачается в красивые формы, намечается праздник жизни. В четверг и пятницу займитесь работой и документами, поиском нужной информации – и вы достигнете максимально возможных для вас успехов. Ждите письма издалека. Для кого-то Греция или Америка становятся не столь уж далекими.



**ВОДОЛЕЙ**. Пока не следует в полной мере заявлять о себе и позволять какие-либо вольности. Побольше солидности и консерватизма – и вас поймут целые коллективы. А к тому же, манера одеваться и артистически подавать себя как нельзя лучше воспринимается окружающими. Молодежная политика, воспитательный процесс способны укрепить ваши позиции. Обнародование документов, подписание бумаг неплохо бы также красиво обставить.



**РЫБЫ**. Вы открываете тайну, и это вселяет в вас оптимизм. Пока еще можно всего ожидать из-за спины, не стоит искушать судьбу. Ведь через месяц вы будете чувствовать себя комфортнее. Встречи в сельской местности или отдых на природе приносят ощутимую пользу. В четверг и пятницу встречайте гостей в доме, которые могут принести радость, помочь с квартирой или офисом и указать целый спектр стоящих действий.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1731 Нумар падпісаны ў друк 9/07/2001 (15:00) Наклад – 9.210

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018